БІБЛІОТЭКА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

У. САРОКІН

# ЗАКОНЫ І ЗВЫЧАІ ЮНЫХ ПІОНЭРАЎ





ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

БІБЛІОТЭКА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

У. САРОКІН

# ЗАКОНЫ І ЗВЫЧАІ ЮНЫХ ПІОНЭРАЎ

Пераклад
А. АНІХОЎСКАГА і А. ПАЛОНСКАГА



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1927

*„Зьмена зьмене—ідзе“.*

Кожнае аб‘яднаньне—комсамол, партыя, профсаюзы—маюць сваю програму і статут.

Програма і статут—тлумачаць мэты і заданьні аб‘яднаньня, паказваюць шлях, па якім патрэбна ісьці, і кажуць аб абавязках і правох членаў аб‘яднаньня (організацыі).

З а к о н ы—гэта ёсьць програма дзіцячага комуністычнага аб‘яднаньня.

Яны зьяўляюцца тэй зоркай, якая паказвае шлях да канцовае мэты юных піонэраў—да комуністычнага грамадзтва.

З в ы ч а і—гэта тыя парэнджы, на якія апіраецца піонэр на сваім шляху: імі ён кіруецца ўва ўсіх выпадках жыцьця як свайго, таксама і сваіх таварышоў.

Усё жыцьцё піонэраў, уся іх праца зьмяшчаецца ў гэтых законах і звычаях.

Вось чаму важна, перад тым, як сказаць—„я піонэр“, добра ведаць, а галоўнае выконваць законы і звычаі юных піонэраў.

# ПЕРШЫ ЗАКОН

## — Піонэр ВЕРНЫ справе рабочае клясы— наказам ІЛЬЛІЧА.



Калі аднаго піонэра запыталі:

— Ты выконваеш першы закон піонэра?

То ён адказаў:

— Так, я выконваю ўсе законы і звычаі піонэраў.

Гэты піонэр быў сапраўды піонэрам. Выконваючы ўсе законы і звычаі, ён гэтым самым выконваў першы закон,—гэта значыць, быў верным справе рабочае клясы і наказам Ільліча.

Што значыць быць верным справе рабочае клясы?—Гэта значыць, што

— патрэбна ведаць, як жывуць і змагаюцца працоўныя ня толькі ў нас, у Саюзе Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, але і ўва ўсім сьвеце,—

ведаць добра, як багатыры-капіталістыя ўціскаюць і трымаюць у няволі мільёны белых, жоўтых і чорных людзей.

— Патрэбна дапамагаць прыгнечаным і ненавідзець багатыроў.

Разумеецца, што піонэр, прачытаўшы ўсё гэта, зусім не павінен выбегчы на вуліцу і, угледзеўшы першага буржуя, які папаўся яму на вочы, выцяць яго па носе ці падставіць ножку.

Сапраўдны піонэр гэтага ня будзе рабіць, а зробіць іначай.

Ён прачытае, распытаецца ў сваіх таварышоў аб тым, як рабочыя змагаюцца з багатырамі, як расійскія працоўныя разьбілі сваіх буржуяў і стварылі першую Савецкую Рэспубліку, як яны, працоўныя, пабудуюць новае жыцьцё, дзе ня будзе ні багатых, ні бедных людзей, гэта значыць,—створаць комуністычнае грамадзтва.

Але самае галоўнае—гэта справаю дапамагаць рабочай клясе ў яе барацьбе.

Як гэта рабіць?

Зусім звычайна. Варта толькі паглядзець уважліва, што робіцца навокал.

Каля аднэй фабрыкі была так папсавана дарога, што ні прайсьці, ні праехаць нельга было. Ідзе чалавек на работу раніцою, спатыкнуўся і ў яму трапіў. Альбо ідзе грузавік, вязе на фабрыку сырэц, раптам пападае ў яму. Вось піонэры з атраду пры фабрыцы бачаць, што справа нядобрая. Сабралі сход і пастанавілі паправіць дарогу. Шчэбнем, пяском, глінаю, пілавінамі пачалі зараўноўваць і завальваць выбоіны ды ямы. Угледзелі рабочыя. — „Э, ды якія-ж яны малайцы, а мы да гэтага часу толькі лаяліся“.

Пастанавілі на агульным сходзе і самым узяцца за працу. Дзякуючы прыкладу піонэраў, у нядзелю ўсе рабочыя наладзілі нядзельнік (васкрэсьнік—дзень, які аддаецца агульна-грамадзкай працы) і падладзілі дарогу.

Цяпер тавар з фабрыкі акуратна дастаўляецца ў цэнтр, і рабочыя, ідучы на работу, не аруць зямлю насамі. А на піонэраў сталі глядзець з павагаю: „Здольная моладзь“—кажуць рабочыя— і навыперадкі пасылаюць сваіх дзяцей у нашу організацыю.

Яшчэ шмат можна прывесьці падобных прыкладаў.

Карысна рабіць экскурсіі на фабрыкі і заводы для вывучэньня вытворчасьці, але яшчэ ляпей, калі піонэры знойдуць там працу для сваіх рук і наладзяць суботнік ці нядзельнік, разумеецца, адпаведна сваім сілам, згаварыўшыся раней з мясцовым камітэтам рабочых фабрыкі ці заводу.

Наладжваецца тыдзень дапамогі паветранаму флёту ці тыдзень прыхільнікаў радыё—і тут піонэры змогуць прынесьці карысьць: організаваць кампанію і ўзяць на сябе распаўсюджаньне лістовак, кніг, значкоў і г. д.

У дзень Чырвонай арміі піонэры павінны пайсьці ў казармы, наладзіць вечар сувязі (спайкі)—гэта паднімае настрой чырвонаармейца; потым піонэры павінны зорганізаваць у сябе куток Чырвонай арміі, наладзіць рэгулярную перапіску з вайсковымі часьцямі, падрыхтаваць сваімі сіламі падарункі. У часе выезду рабочых на вёску для наладжаньня

сувязі (змычкі) з вёскай—піонэры таксама павінны прыняць у гэтым шчыры ўдзел.

Усё гэта дапаможа хутчэй перабудаваць Савецкую Рэспубліку, аднавіць яе гаспадарку і ня даць ворагам Рабоча-Сялянскай улады зьнішчыць заваяваньні рабочых і сялян.

А на Захадзе працоўныя, бачачы, як будуецца і расьце Саюз Савецкіх Социялістычных Рэспублік, будуць яшчэ з большай адвагай змагацца з сваёй буржуазіяй, каб ува ўсім сьвеце пабудаваць Саюз Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

Цяпер павінна быць зразумела кожнаму піонэру, што значыць у той самы час быць верным наказам Ільліча.

Усе піонэры вельмі добра ведаюць, за што змагаўся Ленін.

Ён быў правадыром усіх працоўных, ішоў наперадзе іх у барацьбе з багатырамі і капіталістымі.

Усё сваё жыцьцё Ільліч вучыўся, працаваў і змагаўся. Ён ня ведаў адпачынку. Усе свае сілы, веды і здольнасьці ён аддаў справе рабочае клясы.

І дзеля гэтага піонэры павінны заўсёды памятаць і рабіць так, як рабіў Ільліч. Няхай не дарэмна называюцца піонэры—юнымі ленінцамі.

Піонэр павінен браць прыклад з Ільліча, які ня любіў пустаслоўя, а паважаў людзей справы.

Калі піонэр будзе выконваць усе законы і звычаі, будзе шмат і сумленна вучыцца, ня

будзе гультаяваць, а навучыцца працаваць колектывам, ня будзе выхваляцца сваёю працаю, а больш думаць аб тым, каб дапамагчы акружаючым таварышом—піонэрам, комсамольцам, комуністым і ўсім рабочым і сялянам,

—то тады, значыць, ён выканае наказы Ільліча, які ўсё жыцьцё сваё быў верным справе рабочае клясы.

Піонэр, рыхтуйся стаць барацьбітом-рэволюцыянэрам.

# ДРУГІ ЗАКОН

**— Піонэр—малодшы**
**БРАТ і ПАМОЦНІК**
**комсамольцу і комуністаму.**



З першага закону мы ўжо бачылі, што піонэр ня гуляе, а рыхтуецца да вялікае справы. Піонэр ня будзе заўсёды піонэрам, а, набраўшыся сілы і ведаў, стане побач з сваімі старэйшымі таварышамі ў шэрагі змагароў за комуну.

— „Зьмена зьмене ідзе“—гэткі дэвіз піонэраў.

Комуністыя—гэта працоўныя, якія першыя пачалі барацьбу з капіталістымі і вядуць за сабою мільёны прыгнечаных.

Комсамольцы—маладыя хлапцы і дзяўчаты—сьмела ідуць з імі на чале рабочае і сялянскае моладзі, гатовыя ў любую хвіліну замяніць загінуўшых барацьбітоў.

Піонэры—зьмена зьмене, гэта значыць—зьмена для комсамольцаў.

Усе трое—

комуністы,

комсамолец,

піонэр

— барацьбіты за сусьветную рэволюцыю, за комуністычнае грамадзтва.

Зразумела, што паміж сабою яны, як браты, павінны ўва ўсім дапамагаць адзін другому.

Комуністыя і комсамольцы дапамагаюць піонэрам організоўвацца ў гурткі, вучыцца, працаваць у майстэрнях, наладжваць экскурсіі і г. д.

Піонэр, рыхтуючыся стаць комсамольцам, павінен:

— Ведаць гісторыю і барацьбу рабоча-сялянскай моладзі і яе комуністычнага саюзу.

— Дапамагаць і прымаць удзел у рабоце колектыву ЛКСМБ.

— Дапамагаць комсамолу, партыі праводзіць сходы, зьезды, кампаніі, клюбныя вечары, заняткі і інш. працу.

— У васаблівасьці — актыўна дапамагаць у працы комсамолу на вёсцы.

Старацца ўва ўсім быць прыкладам, каб уступіць у саюз і, атрымаўшы назву сябра

Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі,

стаць сапраўдным павадыром астатняй моладзі.

Адзін піонэр сказаў аднойчы: „А вось, комсамолец такі-то брыдка лаецца і дрэнна працуе“...

Тады павадыр запытаў піонэра:—А калі піонэр ня выконвае законаў організацыі, то ці піонэр ён?

І той, падумаўшы, даў такі адказ:—Зразумела, не!

— Так і той комсамолец, аб якім ты зараз кажаш, ня будзе комсамольцам, калі будзе так рабіць. Аб ім трэба сказаць у ячэйцы, і там яму пакажуць яго памылкі.

Такія выпадкі бываюць, і гэта ня выдумка.

Але піонэр—ня малпа і не папугай.

Ён робіць толькі тое, што карысна і што патрэбна.

І калі які-небудзь комсамолец не падтрымоўвае ўсю організацыю, а шкодзіць ёй, то піонэр павінен разумець, што з гэткім таварышом зробяць таксама, як і з тым піонэрам, каторы гаворыць, а ня выконвае законаў і звычаяў.

Ува ўсіх пачынаньнях, на кожны заклік Комуністычнай партыі і Комсамолу—піонэры павінны змагчы даць адказ:

„Заўжды гатовы!“

Праводзіць ідэі і наказы Ільліча, тлумачыць таварышом у школе, дома і на вуліцы—значыць дапамагаць Комуністычнай партыі і Комсамолу.

Усюды—і ў горадзе, і ў вёсцы—піонэр павінен стаць першым агітатарам Комуністычнай партыі і Комсамолу.

# ТРЭЦІ ЗАКОН

**— Піонэр ТАВАРЫШ піонэрам, рабочым і сялянскім ДЗЕЦЯМ УСЯГО СЬВЕТУ.**

— Мая хата з краю,—казаў адзін селянін, калі ў вёсцы пачаўся пажар і яго клікалі на дапамогу. Але яго хата



згарэла разам з усёй вёскай.

Піонэры не павінны быць падобнымі на такога селяніна, а павінны ведаць, што толькі агульнымі сіламі можна перамагчы ворагаў ці зрабіць сваю працу.

Дзеля гэтага піонэр заўсёды павінен дапамагаць сваім таварышом па зьвяну ці атраду. У патрэбную хвіліну піонэр павінен прыйсьці на дапамогу сваім братом.

Піонэр павінен ведаць, што ва ўсім сьвеце ў яго ёсьць таварышы па барацьбе, якія з надзеяй глядзяць на піонэраў Савецкіх Рэспублік.

Сотні тысяч піонэраў—рабочых і сялянскіх дзяцей на Захадзе—ідуць разам з комсамолам і змагаюцца з багатырамі і капіталістымі, якія саджаюць іх у вастрогі, разганяюць організацыі і наогул усякімі спосабамі шкодзяць нашым таварышом у іх працы. Абавязак піонэраў—падтрымаць іх па мажлівасьці ў працы і барацьбе, пайсьці ім на дапамогу.

Патрэбна наладзіць акуратную перапіску, наладжваць зборы, лётарэі, продаж літаратуры на карысьць дзяцей рабочых на Захадзе, уважліва сачыць за іх жыцьцём, дзяліцца сваёй практыкай у працы.

Піонэры—дзеці рабочых і сялян. Яны—перадавы атрад мільёнаў пролетарскіх дзяцей. Зразумела, што яны—таварышы і прыяцелі рабочых дзяцей усяго сьвету. Піонэры заўсёды гатовы прыйсьці ім на дапамогу.

Па вуліцы, моцна стукаючы ў бубен, ідзе некалькі зьвеньняў піонэраў. Дзеці, не-піонэры, з зайздрасьцю глядзяць на шчасьліўцаў. Адзін з іх падыходзіць да павадыра піонэраў ды пытаецца:—А нам можна?—Той, падняўшы нос угору, важна адказаў:

— Не, няможна, мы піонэры!

Ну, як вы думаеце? Павадыр, сапраўды, быў у той момант піонэрам? Здаецца, што не.

Гонар—рэч ня кепская; піонэры могуць ганарыцца, што яны піонэры, але вельмі дрэнная рэч фанабэрыя, пагардныя адносіны да іншых дзяцей. Гэтага н е  п а в і н н а быць. Кожны піонэр павінен паставіць на від свайму таварышу, калі той

будзе ўхіляцца ад дзяцей не-піонэраў і ня будзе ўцягваць іх у сваю працу. Комуністыя і комсамольцы перамагаюць таму, што ўвесь час моцна зьвязаны з масамі рабочых і сялян і з моладзьдзю. І піонэры толькі тады будуць сілаю, калі павядуць за сабою мільёны рабочых і сялянскіх дзяцей ва ўсім сьвеце.

Піонэр заўсёды павінен памятаць аб сваіх братох на Захадзе і ў кожны момант павінен быць гатовым прысьці ім на дапамогу.

---

# ЧАЦЬВЕРТЫ ЗАКОН

**— Піонэр ОРГАНІЗУЕ дзяцей, якія жывуць вакол яго, і ПРЫМАЕ ЎДЗЕЛ з імі ўва ўсім вакольным жыцьці.**

## ПІОНЭР—УСІМ ДЗЕЦЯМ ПРЫКЛАД.



Піонэр ня цураецца іншых дзяцей, а ідзе да іх, стараецца ўцягнуць іх у працу, знаёміць з сваёй організацыяй.

У школе—піонэр павінен актыўна прымаць удзел у школьным жыцьці: падтрымліваць дысцыпліну і ўцягваць дзяцей у клюбныя заняткі, гурткі, гульні, наладжваць сходы, вытлумачваць заданьні і мэты піонэраў і асабліва наказы правадыра і настаўніка, таварыша Леніна.

У вёсцы—піонэр павінен дапамагаць сялянскім дзецям вучыцца, павінен дзяліцца з імі сваімі ведамі, зьбіраць іх на свае заняткі, гульні. Сялянскія дзеці часта вераць у дамавікоў, чарцей ў інш. падобныя забабоны—абавязак піонэра

дапамагчы ім пазбавіцца гэтых бабскіх і папоўскіх забабонаў. Піонэр дапамагае хаце-чытальні ў атрыманьні газэт і брошур, чытае голасна газэты дзецям і дарослым.

У сябе дома, у садзе, на пляцоўцы— піонэр таксама павінен быць прыкладам: аб'яднаць дзяцей, наладжваць для іх разумныя забавы.

У нас яшчэ шмат бяспрытульных дзяцей. Яны пакінуты самі сабе і часта ня маюць бацькоў; усе яны ня вучацца, а праводзяць час у бойках і нічога ня робяць. Многія з іх робяцца валацугамі і зладзеямі.

Гэтага піонэр цярпець ня можа. Піонэр ведае, што Савецкаму Саюзу наогул і Савецкай Беларусі ў асобку патрэбны здаровыя, сумленныя, працаздольныя і карысныя грамадзяне, а ня трутні.

А дзеля гэтага піонэр:

павінен уцягваць дзяцей вуліцы ў сваю працу; тых, якія ня маюць прытулку, накіроўваць у дзіцячыя дамы, падшукваць, калі гэта мажліва, для іх працу. Сярод бяспрытульных шмат сустракаецца хуліганскіх дзяцей.

Што з імі рабіць?

У вадным горадзе наш атрад пастанавіў „перарабіць“ самага заўзятага хулігана на піонэра.

Гэты хлапец быў вядомы ўсяму гораду сваім хуліганствам. У школе ад яго настаўнікі пачалі адмаўляцца: „безнадзейна сапсаваны“—кажуць; на вуліцы ён зрабіўся кіраўніком усялякіх учынкаў: біў шклы ў вокнах, ламаў платы, біў слабейшых дзяцей, лазіў у чужыя сады і агароды і наогул трымаў сябе да немажлівасьці дрэнна.

І вось дзеці з атраду, калі ён неяк раз зацікавіўся іх працай, пачалі навучаць яго ў свой

бок; нават парашылі прыняць яго ў групу і амаль што не паставіць на чале аднаго зьвяна.

Вы сьмеяцеся. Вось дык павадыр, здольны кіраўнік! Нічога сабе, надумалі.

Ня сьмейцеся! Гэты хлапец праз кароткі час зрабіўся неспазнаным.

Ён цяпер стаў добрым піонэрам.

У школе ўсе зьдзівіліся гэткай перамене, усе былі зьдзіўлены тым, калі ён перастаў хуліганіць, а пачаў вучыцца і пры гэтым вельмі старанна. Ён кінуў курыць, пакінуў лаяцца, красьці і выконвае ўсе законы піонэраў.

Вось як можна, падышоўшы ўмела, змагацца з хуліганствам і бяспрытульнасьцю.

Піонэр у хаце павінен, зразумела, уцягнуць сваіх братоў і сясьцёр у піонэрскую організацыю ў першую чаргу. Гэта яго просты абавязак сумленьня.

Кожны піонэр павінен, апрача таго, памятаць:

На яго глядзяць, як на павадыра, а дзеля гэтага ён павінен быць вельмі асьцярожным у сваіх дзеяньнях, каб не прымушаць чырванець сваіх таварышоў за нядобрыя ўчынкі.

Піонэр, які паказвае кепскі прыклад, ня зможа організаваць дзяцей і ўцягнуць у сваю працу.

Піонэр усюды павінен быць першым. Кожны дзень ён павінен сябе спытаць:

— Што я зрабіў для другіх дзяцей, колькі ўцягнуў новых сяброў у сваю групу?

# ПЯТЫ ЗАКОН

**— Піонэр ІМКНЕЦЦА да ведаў.**
**Веды і ўменьне—**
**СІЛА**
**Ў ЗМАГАНЬНІ ЗА СПРАВУ ПРАЦОЎНЫХ.**




Навакол нас жыцьцё крыніцаю цячэ. Людзі імчацца на трамваях, перасякаюць тысячы вёрст на чыгунках, лётаюць у паветры на аэропляннях, размаўляюць за тысячы вёрст адзін з другім па тэлеграфу і тэлефону, будуюць вялізныя электрычныя станцыі, якія прымушаюць працаваць іншыя машыны і рабіць усе патрэбныя для жыцьця чалавечага рэчы.

Чалавек пачаў перамагаць прыроду. Ён заваяваў зямлю, ваду і паветра. Але быў час, калі ўсё гэта было недаступна для чалавека. Чалавек меў толькі пару сваіх рук, каторыя замянялі яму машыну.

Сваім розумам, цягаю да ведаў, у барацьбе— чалавек ішоў усё далей і далей.

Піонэр павінен ведаць, што перамагчы багатыроў і пабудаваць новае грамадзтва працоўныя

змогуць ня толькі сілаю мускулаў сваіх рук, але і сілаю ведаў, каторымі яны павінны заўладаць.

Ці змог-бы наш Ільліч кіраваць і правільна паказваць шлях у барацьбе, калі-б ён ня чытаў кніг, не вывучаў тых законаў, каторыя падганяюць чалавечае жыцьцё наперад.

Ленін старанна вывучаў усе навукі, ён узяў і вырваў з рук буржуазіі ўсе веды, каторыя яна ўжывала для прыгнечаньня працоўных мас, і гэтаю зброяй ён перамог яе.

Нічога ня можа быць больш сьмешным, чым піонэр, які ня ўмее чытаць і пісаць.

Што было-б, калі-б піонэр, вышаўшы на вуліцу, ня змог знайсьці хаты свайго таварыша, бо ён ня ведае лічбаў і ліку, калі піонэр ня мог-бы напісаць ліст сваім братом на Захадзе, калі-б ён верыў у розных чарцей, багоў, баяўся трамваяў і гудкоў аўтомобілю.

І дзеля гэтага піонэр сваім галоўным абавязкам павінен лічыць выкананьне наказу Ільліча, які сказаў, што асноўнае заданьне моладзі:

— Вучыцца, вучыцца і вучыцца.

У школе—піонэр павінен быць прыкладам у занятках.

Піонэр павінен добра вучыцца, старацца як найбольш усвоіць ведаў і чым больш прачытаць кніжак.

Пры гэтым ён уважліва ўдумваецца ў зьмест кнігі, задае пытаньні настаўніку, гутарыць аб прачытаным з таварышамі, складае гурткі і г. д.

Піонэр павінен быць абавязкова сябрам якоенебудзь бібліотэкі, адкуль мог-бы браць літаратуру.

Пры гэтым піонэр ня трымае сваіх ведаў у сябе, а дзеліцца імі з таварышамі па зьвяну і атраду, наладжвае гутаркі, заняткі і г. д.

Свае веды ён нясе ў вёску, дзе сялянскія дзеці ня маюць магчымасьці многа вучыцца і нават чытаць добрыя кнігі. Там піонэр наладжвае гутаркі, чытае газэты, стараецца дастаць і скласьці хоць невялічкую бібліотэчку для дзяцей.

Дома ён стараецца дапамагачы сваімі ведамі сваёй сям'і.

Але, апрача школы, піонэр вучыцца на акружаючым яго жыцьці.

Піонэр—павінен вывучаць працу на заводах і фабрыках праз экскурсіі са зьвяном ці атрадам.

Піонэр—павінен вывучыць якое-небудзь рамяство, для чаго працуе ў майстэрнях.

Піонэр — гутарыць з старэйшымі таварышамі—комуністымі, комсамольцамі, даведваецца ад іх, як раней змагаліся рэволюцыянэры і як патрэбна змагацца і што патрэбна ведаць, каб перамагчы буржуазію ўсяго сьвету.

Піонэр — упарта, без наскокаў, паступова павялічвае свой багаж ведаў, наглядае і вывучае ўсё акружаючае яго жыцьцё.

У трамваі, у школе, у цягніку, на фабрыцы піонэр усюды глядзіць, слухае, назірае і вывучае ўсе факты жыцьця.

Піонэр заўсёды памятае, што веды яму патрэбны не для сябе, а для агульнае справы.

Агульныя інтарэсы—справа рабочае клясы—вышэй асабістых інтарэсаў піонэра.

Аб гэтым кажа і салют піонэра, калі піонэр падымае сваю руку вышэй свае галавы.

# ПЕРШЫ ЗВЫЧАИ

**— Піонэр АХОЎВАЕ здароўе сваё і другіх, ён вынosьлівы і бадзёры. Устае рана, чыста вымываецца, займаецца гімнастыкай.**



Няма нічога горай, як бачыць хворага чалавека. Працаваць ён ня можа, ад усякага глупства апускае рукі.

Бязумоўна, такі чалавек ня мае здольнасьці працаваць і весьці барацьбу.

Для барацьбы, для вучэньня патрэбны моцныя нэрвы, сьветлая галава і здаровае цела.

Дзеля гэтага піонэр асабліва асьцярожна ахоўвае сваё здароўе.

Піонэр чыста адзяваецца, мые рукі, шыю, вушы, стараецца часта купацца ці мыцца ў балеі.

Заўсёды трымае свой пакой у чыстаце, праветрывае яго нанач.

Прывучаецца спаць з адчыненай форткай ці вакном, не баючыся прастуды.

Піонэр кожны дзень есьць у адзін і той час, есьць не сьпяшаючыся, добра разжоўвае. Гэтым ён скарачае працу свайму страўніку.

Піонэр акуратна займаецца гімнастыкай і рухавымі гульнямі.

Піонэр ведае, што яму патрэбна мець добры слух: дзеля гэтага ён мые вушы і ня зьбірае ў іх гразі.



Піонэру патрэбна мець добры зрок. Дзеля гэтага ён ня чытае ў цемнаце, ня трымае кнігі каля самага носу.

Піонэр есьць толькі здаровую страву, а дзеля таго, каб у страву не пападала гразь, ён сочыць, каб ня было гразі пад пазурамі, якая можа папасьці ў рот разам з ядою, дзеля чаго ён чысьціць і абрэзвае пазуры.

Піонэр не падае рукі: для прывітаньня ў яго ёсьць салют піонэра, бо праз рукі можна перадаваць заразу.

Піонэр ведае, што патрэбна мець здаровае сэрца і лёгкія. Дзеля гэтага ён карыстаецца сонцам, робіць глыбокае ўдыханьне, дыша праз нос, каб не напусьціць у лёгкія пылу з паветра, не сядзіць згорбіўшыся, прыгнуўшыся шчыльна к сталу, ходзіць з узьнятай, а не апушчанай галавой.

Піонэр ня плюе на падлогу, не накідае сьмецьця, бо гэтым ён прыносіць шкоду для жыцьця другіх.

Піонэр шчыры абаронца чыстаты. Ён сочыць як за сабою, так і за сваімі таварышамі.

Выконваючы ўсё гэта, піонэр заўсёды будзе жывым, вытрыманым, бадзёрым і вясёлым.

З любога становішча ён са сьвежай галавой заўсёды знойдзе выхад.

Калі піонэр будзе бачыць гразь у хаце, у школе ці нават на вуліцы, то разам з сваімі сябрамі ён пастараецца, каб яе зьнішчыць.

Піонэр заўсёды памятае, што здароўе яму патрэбна не для прыгожасьці, а для працоўнага жыцьця.

---

# ДРУГІ ЗВЫЧАЙ

**— Піонэр шануе свой і чужы час. Сваю справу робіць ХУТКА і АКУРАТНА.**



Адзін раз адбываўся сход піонэраў. Сабраліся ня дружна; нарэшце, зьявіўся апошні з тых, што запазьніліся. Як толькі сход адчыніўся, ён устаў і заявіў: „Ну, давайце хутчэй канчаць, а то я запазьнюся ў другое месца“. Знайшлося яшчэ некалькі з тых, што запазьніліся, якім патрэбна было заняцца другімі справамі.

— Вось глядзеце, — сказаў павадыр, — як ня трэба рабіць. Спазьніўшыся тут, спозьнішся і ў другім месцы. І мала таго, украдзеш час у сваіх таварышоў. Будзем акуратнымі і дакладнымі.

Так і пачалі рабіць. І цяпер ніхто ня позьніцца, не сьпяшае і пасьпявае рабіць сваю справу ў патрэбны час.

Піонэр павінен разьмяркоўваць свой час. У сваёй памятнай кніжцы адзначаць наперад, калі і што трэба рабіць.

Піонэр не бярэцца за справу, калі ён ня можа яе выканаць па тэй ці іншай прычыне, але, узяўшыся за справу, патрэбна даводзіць яе да канца,

Піонэр ня кінецца выконваць даручэньне, не ўявіўшы добра таго, што яму даручаецца.

Піонэр у свой час прыходзіць у школу, у атрад; ня меле беспатрэбна языком, а больш слухае. Выступае на сходах толькі па тым пытаньні, якое ён добра ведае і разумее.

Піонэр ня трымае рук у кішэні—іначай ня будзеш „заўсёды гатоў“. Рукі ў яго заўсёды свабодны для якой-небудзь карыснай працы.

Піонэр падтрымлівае „лігу часу“, якая стараецца ўтварыць навуковую, правільную організацыю працы.

Для таго піонэр у сябе ў майстэрні сочыць за працай, трымае на месцы ўсе інструманты, стараецца паступова ўпрасьціць і ўскорыць сваю працу.

Піонэру вельмі шмат патрэбна зрабіць і ўведаць; перад ім стаіць вялікая праца ў жыцьці, і яго асноўны дэвіз:

„Шануй час!“

# ТРЭЦІ ЗВЫЧАЙ

**— Піонэр ЛЮБІЦЬ ПРАЦУ і НАСТОЙЛІВА ўмее працаваць колектыўна пры розных умовах, ЗНАХОДЗІЦЬ ВЫХАД пры ўсякіх абставінах.**



— Табе ня бывае сумна? — запыталіся ў аднаго піонэра.

— Мне? Ніколі! Мне не хапае часу, — весела адказаў піонэр, не пакідаючы працы.

Так павінен адказваць кожны піонэр.

Піонэр не валяецца раніцою ў пасьцелі, ён не чакае прыслужваньня ад другіх, а сам першы дапамагае сваім таварышом.

Калі піонэр бачыць, што рабочаму або яго старэйшаму таварышу — комсамольцу, патрэбна дапамога, ён зараз-жа з радасьцю аддасьць свае здольнасьці. Піонэр вывучае заўсёды якое-небудзь рамяство. У атрадзе ён стараецца навесьці парадак у сваім памяшканьні, у хаце дапамагае сваім бацьком.

Адзін раз сустрэлі піонэры на вуліцы свайго таварыша па зьвяну. Той нёс малую сястрычку.

— Эх, ты, нянька! — сказаў нехта, сьмяючыся.

— А ты дурны, — адказаў піонэр, — маці пайшла на фабрыку, а я павінен ёй чым-небудзь дапамагчы. Дома нікога няма. Вось я і гуляю з сястрыцай.

Зразумела, што піонэр не дае дапамогі багатыром нэпманам, якія зьяўляюцца ворагамі рабочай клясы.



Піонэр не баіцца працы і ведае, што, працуючы колектыўна, хутчэй і лепей зробіш справу.

Паспрабуйце летам паправіць канаву, дарогу ці мост. І вы ўбачыце, што чым больш народу і чым правільней разьмяркована праца, тым хутчэй вы яе скончыце.

Кожны ў колектыве мае сваё месца і павінен акуратна выконваць заданьне. Патрэбна ўмець працаваць колектыўна.

У адным атрадзе выпушчалі газэту. Раздалі заданьні кожнаму пароўні. Хто пісаў, хто маляваў, хто складаў матэрыял. Але час прайшоў. Газэта павінна выйсьці. Усе здаюць сваю працу. Газэту патрэбна ўжо вывесіць. І—на табе. Вышла, што матэрыял у газэце разьмешчан ня так, як трэба. Той, што расклейваў артыкулы на папяровых палосках, няправільна іх прыклеіў. Прышлося ўсё перарабляць. Газэта своечасова ня вышла.

У колектыве працаваць патрэбна дружна, а галоўнае памятаць, што колектыў—гэта той самы гадзіньнік. Дастаньце з гадзіньніка хоць адно калёсца,—гадзіньнік стане нягодны і спыніцца.

Піонэр ня „якае". Ён не гаворыць „я зрабіў", а гаворыць „мы зрабілі", бо піонэры працуюць супольна.

Піонэр павінен быць растаропны і сьцямлівы.

Ён павінен быць **вынаходчывым**.

Аднаму піонэру сказалі ў камітэце партыі занесьці тэрмінова адзін пакет. Пакет патрэбна было перадаць таварышу, каторы выяжджаў з гораду, прычым піонэр павінен быў зьявіцца па паказанаму адрасу к шасьці гадзінам. Схапіўшы пакет, піонэр пабег на трамвай. Трамвай, крыху праехаўшы, сапсуўся і спыніўся. Ехаць ня было на чым. Піонэр вылічыў, што калі ён ня толькі будзе йсьці, а й бегчы, то ўсё роўна ён не дабяжыць да патрэбнай яму вуліцы. Як быць? У гэты час яму прышла ў галаву добрая думка. На пакеце ня было напісана, куды едзе таварыш, але было сказана, каму і куды ён павінен перадаць пакет. Ліст адрасаваны быў у Маскву. Хуценька ўскочыў піонэр у магазын і стаў званіць на вакзал. Яму сказалі, што цягнік адыходзіць на Маскву ў шэсьць гадзін і 30 хв.

Піонэр меў у сваім карыстаньні гадзіну часу. Ён дабег да бліжэйшай трамвайнай станцыі, сеў на трамвай і прыехаў на вакзал за некалькі хвілін да адыходу цягніка.

Там ён адшукаў патрэбнага яму таварыша і аддаў пакет.

Так павінен знаходзіць выхад кожны піонэр з розных становішчаў.

Каб мець практыку, піонэры павінны заўчэсьне прабаваць свае здольнасьці, выконваючы розныя заданьні кіраўніка, якія патрабуюць здольнасьці і кемкасьці. Такое практыкаваньне лёгка праводзіць у працоўным лягеры, дзе піонэры могуць організоўваць працоўныя разьведкі, належныя гульні і інш.

# ЧАЦЬВЕРТЫ ЗВЫЧАЙ

**— Піонэр АШЧАДЛІЎ да агульна-грамадзкай маемасьці, АКУРАТНА адносіцца да кніжак, да адзеньня і прылад майстэрань.**



— Нашто ты ломіш брамку?—запыталі аднаго хлопчыка.

— Ды так. Яна не мая.

Піонэру незразумелы гэткі адказ. У яго няма слова маё, а ёсьць наша. Ён ведае, як цяжка зрабіць кожную рэч, і дзеля гэтага паважае чужую працу.

Той, што працуе сам, той і цаніць умее ўсё, што зроблена рукамі чалавека.

Калі піонэр знаходзіцца ў школе, то ён ня ломіць школьных лавак, ня піша на сьценках, ня вырэзвае нажом літар і слоў на лаўках, а стрымлівае і другіх вучняў.

Узятую кнігу ён абгортвае паперай; калі чытае, то ня мне старонак і не вываранвае кнігу наадварат, робіць выпіскі не на кнізе, а на асобным аркушы паперы; наогул, зварочвае кнігу ў поўным парадку ў бібліотэку.

Піонэр ведае, што для таго, каб зрабіць адну кашулю, траціцца шмат рабочага часу і працуе над ёю некалькі чалавек: адзін робіць матэрыял, другі ніткі, трэці шые і г. д.

Дзеля гэтага піонэр ня рве свайго адзеньня наўмысьля, кожны дзень чысьціць яго шчоткай, зараз-жа прышывае адарваны гузік; кладучыся спаць, не раскідае, а вешае адзежу на вешалцы.

У майстэрнях піонэр не забаўляецца з прыладамі, а толькі карыстае іх для справы. Прылады захоўвае ў сваіх скрынках, у часе працы карыстаецца імі вельмі асьцярожна.

Піонэр усюды—на вуліцы, у садзе, на пляцоўцы—ахоўвае агульна-грамадзянскую маемасьць.

Піонэр ня будзе рваць кветак і мяць траву ў садзе ці сквэры.

І, бязумоўна, у вёсцы піонэр не палезе ў чужы сад ці агарод, як гэта часта робяць вясковыя хлапцы.

Піонэр заўжды павінен дапамагаць дарослым таварышом ахоўваць народную маемасьць.

# ПЯТЫ ЗВЫЧАЙ

**— Піонэр ня лаецца,**
**ня курыць**
**і ня п‘е.**



Толькі тыя людзі, у якіх працуе дрэнна галава, карыстаюцца лаянкай. Гэткі чалавек вельмі часта, ня ўмеючы выказаць словамі сваю думку, лезе з кулакамі.

Але піонэр, які наогул ня любіць балбатаць, ведае, што лаянка—гэта спадчына ад нявольніцтва, што толькі несьвядомы, цёмны чалавек здольны гаварыць словы, якія ня маюць жаднага сэнсу. Піонэр для сябе лічыць зьнявагай лаяцца.

Дзякуючы гэтаму, піонэр ня лаецца і стрымлівае і сароміцца тых, хто гэта робіць.

Піонэру патрэбна моцнае здароўе для будучай працы і барацьбы. А курэньне аслабляе памяць і кепска адбіваецца на лёгкіх і на сэрцы. Піонэр—вораг курэньня.

Дый няма нічога сьмяшней хлапчука, узростам з аршын і з папяросай у зубох. Яго можна на-

зваць проста малпай, таму што ён пераймае тое, што робіць дарослы.

Піонэр ня п'е, гэта значыць ня ўжывае алькоголю, які яшчэ горш за курэньне адбіваецца на чалавеку. Ад алькоголю і курэньня жыцьцё чалавека скарачаецца на шмат гадоў, а таксама чалавек хварэе і памірае.

Піонэр павінен весьці з гэтым барацьбу і ўгаварваць іншых дзяцей, каб яны ня пілі і ня курылі, бо гэта шкодна для здароўя. Дзеля гэтага патрэбна праводзіць гутаркі, уцягваць дзяцей у спортыўныя гурткі, а захапіўшыся карыснай, цікавай справай, яны кінуць свае звычкі „малпы“ пераймаць у дарослых тое, з чым дарослыя вядуць самі барацьбу.

---

Вось што значыць выконваць законы і звычаі, і што трэба рабіць, каб быць сапраўдным піонэрам.

Калі піонэр думае, што досыць выўчыць толькі тэкст законаў і звычаяў, а потым хутка паўтараць іх напамяць, гэта далёка ня так.

Патрэбна добра зразумець зьмест законаў і звычаяў і ўвесь час прытрымлівацца іх у сваіх занятках, у працы, у час адпачынку. Піонэр павінен правяраць свае крокі, ці ня супярэчаць яны законам організацыі і ці ня прыносяць шкоды справе рабочай клясы.

Кожны дзень піонэр павінен правяраць сябе: што я зрабіў для агульнае справы ўчора і што я павінен зрабіць сёньня?

Нiводзiн дзень у пiонэра не павiнен прайсьцi дарма.



У любую хвiлiну, калi-б i дзе-б то нi было, памятаючы наказы Iльлiча, пiонэр павiнен адказаць на заклiк:

**— Да барацьбы ЗА РАБОЧУЮ СПРАВУ будзь гатоў!**

жвава, бадзёра i сьмела:

**— ЗАЎЖДЫ ГАТОЎ!**

---



БДВ № 127. Галоўлiтбел № 22591.

1-ая дзярж. друк. Заказ № 127. У лiку 5.000 экз.

